# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1616) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 3 МАЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.




Госці кніжчынага свята, рэдактары дзіцячых часопісаў (злева направа): рускага „Мішы“, беларускай „Вясёлкі“, украінскага „Барвінка“, дзве дзяўчыны пасярэдзіне — прадстаўніцы арганізатараў сустрэчы ў Палацы піянераў Маскоўскага раёна г. Мінска, на якой выступіла гэтая група рэдактараў, далей — рэдактары: нашай „Зоркі“ і кіргізскага „Бакчэчэкея“.

## „ЗОРКА“ Ў МІНСКУ

## СВЯТА КНІЖКІ

Канец сакавіка гэтага года праходзіў у сталіцы Беларусі пад лозунгам Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі. Такі лозунг вітаў на вуліцах, на фасадах палацаў, дамоў культуры, кінатэатраў гасцей, якія з'ехаліся ў Мінск з усяго Савецкага Саюза і суседніх краін на Свята кнігі.

Усесаюзны тыдзень дзіцячай кнігі адбываецца ў Савецкім Саюзе штогод, у час школьных веснавых канікул, ужо шмат гадоў. Кожная рэспубліка стараецца арганізаваць гэтае свята як найцікавей, каб як найбольш распапулярызаваць сярод дзяцей добрую кніжку, даць ім магчымасць пазнаёміцца з аўтарамі дзіцячых твораў, адным словам, зрабіць усё, каб гэта дало як найбольш карысці і чытачам, і наогул дзіцячай літаратуры.

У Беларусь Свята кніжкі прыйшло з Украіны, а ў наступным годзе, як плануецца, паедзе ў Сярэднюю Азію.

Якраз у гэты ж час, калі ў Мінску адбывалася гэтае вялікае свята дзіцячай кніжкі, святкаваў сваё трыццацігоддзе самы папулярны дзіцячы беларускі часопіс „Вясёлка“. Яго добра ведаюць і чытаюць таксама і дзеці ў Польшчы, якія вывучаюць беларускую мову. „Вясёлка“ разам з нашай „Зоркай“ на Беласточчыне — настольныя дапаможнікі на кожным уроку беларускай мовы.

„Зорка“ даўно супрацоўнічае з гэтым часопісам і асабліва з яго аўтарамі, беларускімі дзіцячымі пісьменнікамі і паэтамі. І вось па запрашэнню галоўнага рэдактара „Вясёлкі“ мне пашчаслівілася пабываць на юбілеі гэтага часопіса, а разам з тым і на Усесаюзным тыдні дзіцячай і юнацкай кніжкі. Аб самым юбілеі я раскажу чытачам асобна, а пакуль што — пра кніжчына свята.

Яшчэ напярэдадні Тыдня ў Доме літаратара ў Мінску адбылося адкрытае пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі ўсесаюзнага часопіса „Детская литература“. На гэтае пасяджэнне запрошаны былі госці Усесаюзнага тыдня кніжкі. Адбывалася яно ў актавым зале, столькі сабралася тут пісьменнікаў, літаратурных крытыкаў, журналістаў, літаратуразнаўцаў, прадстаўнікоў дзіцячых выдавецтваў з усяго Савецкага Саюза. Адкрыў пасяджэнне І сакратар Саюза пісьменнікаў БССР Ніл Гілевіч, а вёў яго галоўны рэдактар ча-

(Працяг на стар. 2)

## У ПАЎЛАХ ПАЧАЛОСЯ АДРАДЖЭННЕ

Адраджэнне беларускай тэатральнай сцэны ў Паўлах наступіла мінулай зімою. Паўлы захацелі зрабіць запусты. Калі рабіць запусты, трэба нешта культурнае паказаць. І пачалі Паўлы прыпамінаць п'есу „Немцы“. Раней калектыў з Паўлаў выступіў у конкурсе „Беларуская песня“. Значыць, мелі яны ўжо і п'есу, і песні.

На свае запусты запрасілі прадстаўнікоў гмінных улад з Заблудава. Усім падабалася выступленне. Тады паўлаўцы паведамілі ГП БГКТ аб сваіх намерах і прасілі дапамагчы. Такім чынам у Паўлы паехаў Янка Мордань, інструктар па справах культуры ГП. Ён ведаў, што традыцыі тэатра ў Паўлах вельмі даўнія і багатыя. Некалі ішла тут выдатная праца. І што важнейшае, людзі пра тое не забыліся. Цяпер сказалі інструктару, што хочуць сарганізаваць новы тэатральны калектыў.

— Я да іх неяк прыліп, — кажа Янка Мордань. — і падумаў: сам ад іх нечаму навучуся.

Калі было Свята беларускай культуры ў Беластоку ў мінулым годзе, Паўлы выступілі, але не вельмі ўдала, з увагі на не найлепшую падрыхтоўку, бо якраз быў час збору трускалак ды розныя іншыя праблемы выйшлі. Усё ж такі выступленне тое іх заахвоціла працаваць у тэатры. Паехалі на фэст у Вярхлес і там выступілі з п'есай „Немцы“ і песнямі. Людзі прынялі іх добра.

— Тады мы дамовіліся, — працягвае Я. Мордань, — што з новага сезона будзем думаць, каб паставіць нешта новае і вартаснае. У той час я прачытаў новы

(Працяг на стар. 4)




Даведаўшыся пра беларускі чытацкі конкурс, я вырашыла прыняць удзел у ім. Выбрала адзін літаратурны твор, быў гэта раман Алеся Шашкова „Спытай сваё сэрца“. Напісала пра яго тое, што змагла, і як конкурсную работу паслала на ўказаны ў „Ніве“ адрас. Думала так: калі ўдасца мне і буду я прынятай у лік удзельнікаў таго конкурсу, тады прачытаю яшчэ што з беларускай літаратуры, хоць часу ў мяне надта ж няма. Асабліва не верыла я ў сваю ўдачу, бо пісалася мне тая работа цяжка, у нервовых дома абставінах. Потым дадумалася я, што ў тым конкурсе будуць удзельнічаць, напэўна, і ліцэісты, якім лягчэй пісаць пра літаратуру, бо ж вывучэнне яе — гэта іхні штодзённы хлеб. Трэба, каб у будучым ГП БГКТ арганізавала асобны чытацкі конкурс для дарослых, і асобны для вучнёўскай моладзі, бо калі ўсіх разам змяшаць, то адразу вядома, што ліцэісты выйдуць на лепшыя месцы. А гэта несправядліва, просты чалавек больш намучыцца ў такім конкурсе, а вынікі ў яго заўсёды будуць слабейшыя, чымсьці ў таго, хто з інтэлігентнасці хлеб есць.

Конкурс гэты завяршаўся ў бельскім клубе БГКТ. У гэты дзень прыехала я пяршуткай са сваёй далёкай вёскі. Заходжу я гэта ў той клуб, а там яшчэ нікагуткі, толькі арганізатар конкурсу, Янка Мордань, бегае па ім, непакоіцца. Пасля з'явіліся дзяўчаткі і хлопцы з абодвух беларускіх ліцэяў, а можа і з іншых школаў (?) Я адчула сябе сярод іх бабаю і зразумела, што конкурсу гэтага мне не выйграць. Убачыла Элю Бэзюк, якую ведаю як вельмі культурную беларуску. „Гэта яна возьме першую ўзнагароду“, падумалася мне. І я, як аказалася пасля, не памылілася. Ліцэісты занялі ўсе фінальныя месцы, што лёгка было прадбачыць. Мне і самой было сорамна, што так мала я ведаю пра беларускую літаратуру, ды наогул пра беларускую культуру, што, на жаль, тыповае нам, беларусам, нацыі, якой пагражае існаванне без нацыянальнай культуры!

Банк узнагародаў конкурсу разбілі, аднак, бельскія ліцэіс-

(Працяг на стар. 6)

# АДОЗВА

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы падае да ведама, што ён зарэгістраваны як Таварыства дня 20.06.1984 г. Ваяводскай управай у Беластоку пастановай № СА 6015/34/84, зацверджанай рашэннем Міністэрства ўнутраных спраў ад 19.09.1984 г. № Д 605/С/XII/84 і ў сувязі з гэтым Камітэт валодае правамі юрыдычнай асобы.

Заданне Камітэта — пабудаваць і арганізаваць Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Прызначэнне Музея — увекавечыць традыцыі здабыткаў рэвалюцыйнага руху на Беластоцкай зямлі ў лучнасці з традыцыяй і культурай беларускай нацыянальнай меншасці.

Таварыства пачынае сваю дзейнасць ад асноў. Цяпер у нас скромныя фінансавыя сродкі. Таму звяртаемся за падтрымкай выдатнай ініцыятывы ахвяраваннем на рахунак Грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў: Bank Spółdzielczy w Hajnówce № 905217-1922-132 — грошай, за якія мы будзем сардэчна ўдзячны. Таксама пажадана ахвяраванне экспанатаў у Музей, якія просім здаваць у канцылярыю Камітэта ў Гайнаўцы, вул. Вызвалення 8, тэл. 28-89, або паведамляць пра месца, з якога можна іх узяць.

У нас таксама ёсць рахунак на замежную валюту: NBP I O Białystok Nr 5018-2400-325-151-6787 па дазволу Міністра фінансаў ад 8.12.1984 г., на гэты рахунак просім уплочваць ахвяраванні ў замежных валютах.

Ахвяравальнікаў мы ўпісваем у спецыяльную Кнігу заслужаных для пабудовы Музея. Сардэчна дзякуем за дагэтуляшнія ахвяраванні і горача просім новай дапамогі.

Старшыня Камітэта
**К. Майсеня**

# СВЯТА КНІЖКІ

(Працяг са стар. 1)

сопіса „Детская литература", вядомы рускі дзіцячы пісьменнік Сяргей Аляксееў. Тэмай „круглага стала" была „Беларуская дзіцячая літаратура сярод братніх літаратур СССР". Выступаючыя госці не толькі аддавалі даніну шчырасці гаспадарам свята — беларусам, прызнаючы вялікую ролю дзіцячай, і наогул беларускай літаратуры ў сям'і літаратур братніх рэспублік. З вялікім клопатам гаварылася аб сур'ёзных праблемах, якія стаяць перад літаратурай, асабліва дзіцячай і юнацкай, у наш час, калі моладзь усё больш і больш вырываецца з-пад аўтарытэту бацькоў, калі не заўсёды спраўляецца з накладзенымі на яе абавязкамі школа ў выхаванні сучаснага, думаючага і вельмі крытычнага маладога чалавека. Пісьменнікі глыбока задумваліся над тым, як прыцягнуць чытача да кніжкі з наймалодшых гадоў, як ісці поруч з ім праз усё яго спачатку дзіцячае, а потым і дарослае жыццё. Амаль над кожным выступленнем лунаў вядомы афарызм, прыпісваны часта Горкаму, што „для дзяцей трэба пісаць так, як для дарослых, толькі значна лепш". А ў адным з апошніх нумараў „Детской литературы" Сяргей Міхалкоў напісаў так: „Чаму я пішу для дзяцей? Ды таму, што яны лепшыя ад дарослых. Так збудаваны „псіхалагічны арганізм" чалавека, што ў пачатку жыцця чалавек адкрыты на дабро, фантазію". І некаторыя пісьменнікі, маючы на думцы цяжкасці ў выхаванні маладога пакалення, адкрыта бралі на сябе віну за слабое ўздзеянне кніжкі, балюча ўспрымаючы кожны прыклад няўдачы школы ў выхаванні.

Увесь дзень знаўцы літаратуры, пісьменнікі, выдаўцы выказвалі свае думкі аб дзіцячай літаратуры наогул, а беларускай у асаблівасці, падкрэслівалі ўплыў беларускай літаратуры на творчасць іншых народаў. Беларусь можа ганарыцца вялікай плеядай паэтаў і празаікаў розных пакаленняў, як у дзіцячай, так і ў дарослай літаратуры.

На гэтай жа сустрэчы мне асабіста ўдалося пазнаёміцца з такімі славамі беларускай літаратуры, як Максім Танк, Янка Брыль, Васіль Вітка, Павел Ткачоў, Станіслаў Шушкевіч, Эдзі Агняцвет, Васіль Хомчанка, Алена Васілевіч, Павел Місько, Леанід Прокша і многімі іншымі. Усе яны ведаюць і чытаюць „Ніву" і „Зорку". Многія з іх падарылі „Зорцы" свае навейшыя кніжкі і абяцалі дасылаць новыя творы. Сардэчна дзякуем ім за гэта і жадаем вялікага натхнення ў стварэнні новых кніжак.

У дзень урачыстага адкрыцця Свята кніжкі ўсе госці складалі кветкі ў памятных месцах горада, а потым прысутнічалі на адкрыцці кніжнай выстаўкі, хоць маладога яшчэ, але ўжо заслужанага беларускага выдавецтва „Юнацтва". Працуе яно ўсяго толькі шэсць гадоў, а выпусціла ўжо ў свет мільёны кніжак. Тут і мастацкая літаратура, і альманахі, і агляды, і серыйныя цыклы, і пераклады. Выстаўка адразу сабрала шмат чытачоў. Дарэчы, у гандлёвай зале кнігарні таксама было шмат людзей — аматары хатніх бібліятэчак стаялі ў чарзе за „духоўным хлебам". Відаць, з нагоды адкрыцця выстаўкі ў продаж паступілі нейкія выдавецкія „разынкі".

А пасля поўдня ў велізарнай зале Дзяржаўнага тэатра оперы і балета адбылося ўрачыстае адкрыццё Тыдня. Ужо ў фае тэатра пісьменнікаў сустракалі вучні мінскіх школ. Яны затрымлівалі гасцей і вялі ў краіну кніжкі, дзе можна было сустрэцца з героямі казак і больш сур'ёзных папулярных дзіцячых кніжак, тут жа выступалі дзеці з мантажамі, песнямі і танцамі, прысвечанымі кніжцы і яе святу, а зусім побач можна было адразу ж агледаць, выбіраць і купляць новыя кніжкі, некаторыя проста з друкарні, яшчэ пахнучыя фарбай. І ахвотных купіць было нямала. Бо як жа было не выкарыстаць такую нагоду, калі можна тут жа, на месцы знайсці аўтара купленай кніжкі і папрасіць падпісаць яе. Тут жа, на цэнтральным месцы, ляжала велізарная, ці не з метр даўжыні, кніга аўтографаў, у якую абавязкова павінен быў упісацца кожны госць Свята кніжкі.

А калі ўсіх запрасілі ў глядзельную залу, на сцэну выйшлі пісьменнікі. А. Алексін — сакратар праўлення пісьменнікаў РСФСР і Васіль Вітка, — вядомы беларускі казачнік і паэт, уладальнік ганаровага дыплома імя Х. К. Андэрсена. Яны адкрылі ўрачысты канцэрт, у якім выступілі найлепшыя дзіцячыя калектывы горада: фальклорны ансамбль Рэспубліканскага палаца піянераў „Зорачка", калектыў Палаца культуры прафсаюзаў „Равеснік", калектыў дашкольнікаў „Мульцік" і іншыя. У прамежках паміж вясёлымі, каляровымі танцамі і гульнямі выступілі і іншыя паэты, а сярод іх — беларускі паэт Артур Вольскі, украінская паэтэса Тамара Каламіец, рускі пісьменнік Сяргей Аляксееў і іншыя.

Наступныя дні кніжчынага свята адбываліся ўжо па ўсёй Беларусі. Гаспадары вырашылі паважаным гасцям з іншых рэспублік паказаць іншыя гарады і мясціны Беларусі і там, у глыбі народнай, прапагаваць добрую кніжку і добрых пісьменнікаў.

Аб маёй паездцы ў краіну азёр, у Маладзечаншчыну, дзе знаходзіцца найбольшае і найпрыгажэйшае возера Беларусі — Нарач, і беларускі „Артэк" — „Зубраня" над ім, раскажу ў наступным артыкуле.

**Яніна Чэрнякевіч**

# НА МЯЖЫ

# АБ СТАРШЫНЯХ (1)

Так склалася, што я — старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Зразумела, што, выконваючы гэтую функцыю, не магу не супастаўляць сябе з папярэднімі старшынямі з мінулых кадэнцый. Запамяталіся мне старшыні: Станкевіч, Давідзюк, Дземяновіч, Бялецкая, Склубоўскі, Хмялеўскі, Самоцік. Амаль усе яны, як гэта ў тых часах называлася і рабілася, былі нам на паасобныя з'езды „прывезены ў партфелях". Гэта значыць, што палітычна-адміністрацыйныя ўлады, згодна з тагачаснай модай, прапанавалі паасобным з'ездам выбраць такога і такога таварыша і дэлегаты яго выбіралі. Я быў адным з першых старшыняў „не прывезеным у партфелі". Ці маю падставы да таго, каб так гаварыць? Маю. Хаця б таму, што ні перад з'ездам БГКТ, ні падчас яго работы ніхто з уладаў не гаварыў са мной на гэту тэму, не заахвочваў, не прапанаваў. З гэтага можна зрабіць вывад, што першы раз у жыцці нашай арганізацыі я быў выбраны дэмакратычна. Аднак такога тэзіса паставіць я не магу. Мне здаецца, што аб поўным дэмакратызме можна было б гаварыць толькі тады, калі б былі на функцыю старшыні запрапанаваны прынамсі дзве кандыдатуры і калі б галасаванне на іх было праведзена тайнае. На жаль, так не было. Хаця мы і зацвердзілі на з'ездзе новы статут; які прадбачвае магчымасць тайнага галасавання, то я на гэты раз (думаю, што апошні) выбраны ў адкрытым галасаванні. Зразумела, што гэта ў сур'ёзнай ступені псуе мой настрой. Бо як бы там не было, але адкрытае галасаванне не ёсць праявам дэмакратызму.

У адрозненне ад амаль усіх папярэдніх старшыняў, я за сваю функцыю не атрымліваю ніякіх грошай, што ставарае пачуццё свайго роду лёгкасці і незалежнасці. Што магу сказаць адмоўнае аб некаторых з былых старшыняў? Тое, што ім здавалася, што яны ў Беларускім таварыстве могуць быць усім, або нічым. І таму, адыйшоўшы з функцыі старшыні, пераставалі яны лічыцца ў жыцці нашай арганізацыі і большасць з іх, скажам, не была членамі праўлення аддзела БГКТ, або, барані Божа, членам праўлення гуртка. А некаторыя з іх увогуле парывалі ўсякую сувязь з Беларускім таварыствам, прападаючы бясследна з нашых вачэй. І вось такі падыход: „усё, або нішто" сведчыць аб тым, што ў выпадку некаторых старшыняў мелі мы дачыненне з людзьмі выпадковымі, аб якіх перафразуючы Станіслаўскага, можна сказаць, што „не любілі Таварыства ў сабе, але любілі сябе ў Таварыстве". Робячы адпаведныя вывады для сябе, абяцаю, што перастаўшы быць старшынёю Таварыства, ніякай злосці да тых, хто мяне не выбярэ да цэнтральных улад мець не буду, што магу выконваць любую функцыю ў ніжэйшых органах нашай арганізацыі, або быць прынамсі актыўным яе членам, не выконваючы ніякай афіцыйнай функцыі. Гэта, па-першае.

Па-другое, калі гартаю старыя гадавікі „Нівы" і „Беларускія календары", кідаецца ў вочы значна большая, чым трэба, колькасць вялікіх здымкаў старшыняў. Старшыня — прамаўляе, старшыня — уручае, старшыня — адкрывае, старшыня — закрывае, старшыня — дае інтэрв'ю, старшыня — пахілены задуменна над кнігаю. Усё гэта стварыла свайго роду культ, візантыйскую атмасферу елейнасці і свяшчэннасці. Мне здаецца, што такія праявы самарэкламы зусім непатрэбны і таму прагну, каб да канца кадэнцыі мае вялікія здымкі не паяўляліся ні ў „Ніве", ні ў „Беларускіх календарах". Функцыя старшыні дае вельмі многа магчымасцей паказацца людзям. Нагодай могуць быць фэстыны, урачыстасці, святы, сходы, спатканні — усюды старшыня мае магчымасць выступіць, прамовіць і паказаць сябе народу. А раскідацца здымкамі не трэба. У гэтым сэнсе вельмі мне падабаецца практыка кіраўнікоў нашай дзяржавы, якія ўжо больш за 15 гадоў сваіх партрэтаў не дазваляюць вешаць на сцены і несці ў часе першамайскіх парадаў. Лепш знайсці месца ў народнай памяці, чым на паперы.

Вяртаючыся да мінулага, хачу сказаць, што сярод былых

(Працяг на стар. 7)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 335




У апошніх радках свае кнігі „Беларусь, Беларусь“ Сакрат Яновіч кажа, што ён „хацеў у ёй гаварыць пра тое, пра што мы не думаем, а думаць павінны, і пра тое, чаго не ведаем, а пра што трэба ведаць, а таксама пра тое, як далёкае бывае нам блізкім...“ І з многіх спраў, якіх могуць датычыцца гэтыя словы, аўтар засяродзіўся на разважаннях над суадносінамі паміж Беларуссю, беларусамі і беларускасцю і заходнім суседам — Польшчай, палякамі і польскасцю ды ў значна меншым памеры — з усходнім — з Расіяй, рускімі і рускасцю. Таму і кніга выйшла якраз пра тое, што найболей баліць кожнага светлага беларуса, які ўсвядоміўшы сваю нацыянальнасць і ўпэўніўшыся ў сваёй беларускасці, спрабуе ставіць свой народ, яго гісторыю, мову і культуру ўровень з суседнімі народамі. Аднак гэтае натуральнае ў іншых рэгіёнах свету імкненне часта сустракаецца тут, у цэнтры Еўропы, са зласлівымі насмешкамі і з заядлай варожасцю не толькі сярод шматлікіх прадстаўнікоў суседніх народаў, але і ў многіх сваіх жа суродзічаў, якія яшчэ не прачнуліся да нацыянальнага жыцця або дзеля спакою ды штодзённай выгады самі заплявалі і затапталі сваю нацыянальную годнасць. Вядома, нішто ў свеце не паўстае з нічога, таксама і на тое, каб беларусы, як заўважае С. Яновіч, сталі „самым зацкаваным народам Еўропы“ шчыра і настойліва папрацавалі не малыя сілы і не адно стагоддзе. Аўтар кнігі не ставіць перад сабою задання зрабіць паслядоўны і падрабязны агляд гэтага трагічнага працэсу, правесці са скальпелем у руцэ вівісекцыю спробаў паглынуць наш народ вялікадзяржаўнымі і шавіністычнымі сіламі, якія прыходзілі зблізку і здалёку. Гэтых злых моцаў у звыштысячагадовым мінулым беларусаў было занадта многа, бо „вяргаў Беларусь кожны, каму толькі захацелася падняць нагу (асабліва ў падкаваным боце)“, — заўважае С. Яновіч і не спрабуе супрацьставіцца „злу насіллем“. Затое ён з разважлівасцю і тактоўнасцю чалавека непарушна ўпэўненага ў сваёй праваце намагаецца паказаць, якімі нязмернымі інтэлектуальнымі каштоўнасцямі ўзаемна абмяняліся польскі і беларускі народы за сваё доўгавечнае суседства. „Польскае і беларускае мысленне перакрыжоўваюцца. Адно апладатварае другое“, — падкрэслівае аўтар і водзіць чытача па найважнейшых, вузлавых гістарычных фактах польска-беларускіх узаемаадносін. А яны складаюцца не толькі з узаемных пахвал ды далікатнасцей, але і з горкіх нараканняў ды з цяжкіх закідаў і прэтэнзій.

Пачынаем мы гэтую дзівосную вандроўку па неасветленых закутках мінуўшчыны і малавядомых сцежках сучаснасці разам з аўтарам і яго жыццёвай спадарожніцай у сталіцы польскіх зімовых курортаў і адразу натыкаемся на сляды Алаізы Пашкевіч-Цёткі, якая пад Гевонтам шукала і знайшла ратунак ад смяротнай хваробы, і Івана Луцкевіча, якому гэтак не пашанцавала і лёс наканаваў спачыць навечна ў закапянскай зямлі. Гэта змагары за Новую Беларусь, якая явілася з забыцця ў пачатку нашага стагоддзя. А некалькімі радкамі далей мы ўжо ў спрадвечным Кракаве блукаем па вузенькіх вулачках, дзе яшчэ чуваць крокі двух волатаў беларускага Рэнесанса — Францішка Скарыны і Міколы Гусоўскага, якіх творчыя здзяйсненні задакументавалі, што Старая Беларусь была Еўропай і стварала разам з іншымі еўрапейскімі народамі Залаты век. І гэтак па 1000 гадах нашай гісторыі і амаль па ўсім еўрапейскім кантыненце, але ўвесь час пад праменістай ідэяй Беларусі — праз усю кнігу.

Змест кнігі немагчыма пераказаць перш за ўсё таму, што безліч прыгаданых у ёй фактаў і выказаных думак і спасцярог скандэнсавана да граніц магчымага. Гэта ж вольная гутарка складзеная з мноства экскурсаў у мінулае і сучаснае, са спасылкай на асабістыя аўтарскія ўражанні і перажыванні. Пры тым С. Яновіч па-майстэрску пакарыстаўся гэтай надта ж папулярнай у беларускім пісьменстве формай выказвання — сярмяжная старэча-гутарка пад яго пяром закрасавала ўсімі прывабнасцямі сучаснай літаратурнай элегантнасці. Пры тым напісана яна дасканалай польскай мовай, якой днём з агнём шукаць сярод „прадукцыі“ многіх сённяшніх польскіх пісьменнікаў. „Беларусь, Беларусь“ С. Яновіча — гэта выдатны ўрок якраз усім тым, хто спрабуе даказваць, што ў беларускім асяроддзі няма эрудытаў і творцаў з высокай мастацкай культурай **польскага** слова.

Ці няма ў ёй хібаў і недахопаў? А які ж аўтар змог іх! Не адолеў усіх і С. Яновіч. Здаецца, кніга скарыстала б на тым, калі б аўтар замест захліствацца пералікам, у якія то краіны заходнія ды ўсходнія колькі разоў ён ездзіў і з кім вялікім су-

**(Працяг на стар. 5)**



**Сакрат Яновіч. Фота Р. Сухаверскага.**

### ЖЫВІЦА

*Яраславу Гайду*

многа агню  
сыплецца іскрамі  
божымі  
над вяршалінамі дрэў  
распятых пад нашым небам

прыляж да зямлі:  
як дыхае  
грудзьмі паўнаводнымі  
як мякка песціць  
нашы вочы далоні

ад нашых вуснаў  
паветра плыве  
да хмар  
цішэй:  
гоману нашых дзядоў  
адбітае рэха  
у паветры дрыжыць

жменю слязы  
ад горкай кары  
дало мне  
вішнёвае дрэва —  
словы пякуць  
ад жывіцы  
жыцця

так баліць  
нам скарпіёнам  
у белым полымі  
у чыстым агні

**Міра Лукша**




## ХОЦЬ ТЫ ЯМУ Ў МОРДУ ДАЙ!

Наш пісьменнік і адданы беларус — Сакрат Яновіч і ў гэты раз напісаў прыгожае ды па-жыццёваму сапраўднае апавяданне „Бацькаў дом“. Мы, як тыя людзі, якія сяк-так здольныя смакаваць літаратуру, ведаем: мастацкі твор, каб ён быў і прыгожы і дасканалы, і каб падабаўся чытачам, мусіць быць крыху выдуманым, але так, каб гэтая выдумка аўтара праўдаю жыцця пахла. Каб гэтая выдумка асноўвала праўду пра чалавека і яго лёс, бо ж літаратурны твор тым і адрозніваецца ад газетнага артыкула, што ў ім кожны факт мае глыбейшы сэнс, указвае на нейкую праўду пра чалавека. Твор, у якім больш фантазіі для самое фантазіі, лічу я пустым, непатрэбнай дуратою. У нашага Яновіча няма чагосьці такога.

У яго мініяцюрах ды апавяданнях усё абапіраецца на саліднай праўдзе жыцця, праўдзіва ён піша, дасканала, і слушна! Як хаця б у тым „Бацькавым доме“. Чытаеш і думаеш: сапраўды трэба напрацавацца, каб да нечага ў жыцці дайсці. І што найважнейшае ў ім — трэба ўтрымаць бацькаўшчыну, бацькаўскі дом гэты, каб спадчына наша не перайшла ў каршуновыя рукі! Будуць няўдачы, будзе гаротна, але трэба праз усё тое прайсці, каб захаваць працяг пакаленняў. Бацькаў дом — гэта метафара, гэта размова пра наш беларускі лёс і пра нашы адносіны да гэтага лёсу. Бацькі нашы няшмат нам пакінулі, больш яны не маглі, зрабілі, што далі рады, і нашым гэта абавязкам іхніх паслядоўнікаў узбагаціць спадчыну бацькавую, каб было што перадаць дзецям ды ўнукам. Народ, які парывае са сваёй спадчынай, такі народ і сам прападае, робіцца спажываю для іншых.

Чытаючы „Бацькаў дом“, бачыш перш перыпетыі героя апавядання: як ён намагаецца дарабіць недаробленае бацькамі, пераўтварыць хату ў прыгожы будынак з выгодамі, у такі, у якім хочацца жыць, быць яго жыхарам. Ці гэта грэх жыць чыста і прыгожа? Ці гэта кепска, што сядзіба абгароджана акуратным плотам, а на падворышчы няма балагану ды ўсякага гною? Добраўпарадкаванне ды разбудова бацькавага дома адбываецца з энергіяй ды гэтую энергію штораз гасяць — як не бюракраты, якім заўсёды не на руку парадак, то няўмекі-майстры, якія найлепей умеюць якраз даводзіць чалавека да растратніцтва, выманocc ад яго пабольш грошай за абы-якую работу. Яны робяць так: чым даражэй, тым горш! І як тут быць сумленнаму чалавеку?

З сумленных у нас смяюцца. У „Бацькавым доме“, відаць, плацілі майстрам залатоўкамі, а гэта яшчэ адна прычына, каб зрабіць работу нікудышняй. Вось каб доларамі плаціць майстрам ды хабары тымі „зялёнымі“ даваць урадрнікам, дык інакш за-

**(Працяг на стар. 4)**

(Працяг са стар. 3)



## АДГАЛОСКІ

хадзілі б і забегалі б усе яны каля таго бацькавага дома. Яны перад ім на каленях сталі б, ногі гаспадару абмывалі б і ваду з іх пілі б ад удзячнасці! Да таго ўжо дайшло, як сам я тое няраз бачу, што грошы сваёй дзяржавы бяруць, бы з ласкі якое... Давай ім амерыканскія, во! А што грошы? Грошы — гэта толькі ўмоўная вартасць працы. І як доўга наша праца будзе нікудышняй, так доўга і грошы нашы будуць, як макулатура якая. За амерыканскімі грашыма мала не пазабіваюцца людзі, бо і амерыканскі тавар добры, добрай якасці, не барахлеча. Але амерыканцы працуюць, яны напраўду працуюць, у іх няма ліпы і цваніцтва, і калі чаго нам трэба вучыцца ад іх, дык гэта працы. А мы як працуем? Усё зіркаем, каб выкруціцца неяк ад працы, і каб хто іншы за нас парабіў усенька. Як той гідраўлік у „Бацькавым доме“, які мала што зрабіў сваё з рук вон, то яшчэ і пачаў палохаць, што ў суд падасць, калі не даплаціць яму. Зараза, хоць ты яму ў морду дай!

Так працуючы, мы ўсё беднымі будзем.

**М. Панфілюк**

### ЦІ НАПЭЎНА АБОЕ РАБОЕ?

Чытаючы артыкул Хведара Хлябіча „Абое рабое“ я спачатку смяялася, а потым падумала, што аўтар задумаў правучыць мяне, ды зрабіў ён тое няўдала.

Няхай муж не ўстае да дзіцяці, калі жонка корміць малое, але калі не корміць, дык трэба, каб дапамагаў ёй, не валіў усіх клопатаў на яе рукі. А калі гаварыць пра тую „вынаходлівасць“ дзеда Паўла, дык гэта чыстай вады ідыятызм, з якога невядома, ці смяяцца ці плакаць трэба. Бо смяяцца з чужое дурнаты — гэта, таксама, дурната.

Жанчыны даюць рады рабіць мужчынскую работу, што паказаў хаця б ваенны той час, калі мужоў пабралі на фронт, а бабам мус быў і араць і сеяць, і малаціць, і дзетак гадаваць, і дроваў на зіму прыдбаць. Загадкаю здаецца мне тое, чаму столькі мужчын не дае рады з, так званай, бабскай работаю; ёсць і такія, якія і есці самі не ўмеюць узяць сабе з пліты (галодны сядзіць дома, жонкі чакаючы, каб прыйшла і падсунула яму талерку са стравай пад нос, хлеба ўрэзала). Хачу зазначыць, што жаночая работа — гэта справа цярплівасці перш наперш, а ў мужчын цярплівасць, як нейкі дэфіцытны тавар, мала яе ў іх або і зусім няма.

Паглядзіце калі, Хлябіч, і на гарадскую жанчыну, паглядзіце, як яна вяртаецца з работы, а як вяртаецца яе муж. Яна — з торбамі ў абедзвюх руках, а ён — з газетаю, а то і без газеты, з рукамі ў кішэнях. Пра што гэта сведчыць, га? Жанчына прыходзіць у кватэру і бярэцца абед рабіць, а муж, думаеце, робіць што, можа прыбірае ён пылесосам? Ага, рыхтык ён табе пры-

(Працяг на стар. 6)

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Стары Беласток, вуліца Грунвальдская. Мал. Уладзіслава Петрука.*

(Працяг са стар. 1)

## У ПАЎЛАХ ПАЧАЛОСЯ АДРАДЖЭННЕ

раман Васіля Быкава „Кар'ер“ Запрапанаваў яго пачытаць і паўлаўцам. Раман усім спадабаўся. Там ёсць частка амаль з гатовымі дыялагамі. Падзеі адбываюцца ў 1941 г., у першыя дні вайны. Мне здалося яно вельмі сцэнічным. Такое магло здарыцца і пад Заблудавам і амаль у кожнай беларускай мясцовасці на Беласточчыне. Пра гэта я расказаў у Паўлах і мы прыйшлі разам да вываду, што варта паспрабаваць перанесці гэта на сцэну. Давялося апрацоўваць сцэнарый. Выбралі адзін аспект: змаганне розных людзей за тое, каб застацца сабой. Распісаў я сцэнарый на ролі, аказалася іх аж 14 у „Было гэта ў 1941 годзе“.

— Так будзе называцца п'еса?

— Так будзе называцца — *„Было гэта ў 1941 годзе“, драма ў трох карцінах на аснове аповесці „Кар'ер“ Васіля Быкава.* Я захаваў усе быкаўскія дыялогі даслоўна, у некаторых толькі месцах мы іх наблізілі да нашых умоў, напрыклад, у Быкава: у „Сырамякаўскім лесе“, а паўлаўцы змянілі на свой — „Вялікі лес“.

У працу з паўлаўскім новым тэкстам уключылася паэтэса Надзя Артымовіч, якая, пагледзеўшы на здольнасці гэтых людзей, фактычна стала рэжысёрам новай пастаноўкі.

— Як людзі аднесліся да свайго новага задання?

— Яны гэтым жылі і жывуць наштодзень. Самі працавалі над ролямі. Старэйшыя, вопытныя памагалі маладым.

І хацелі людзі ў Паўлах як найхутчэй самі сябе пабачыць на сцэне. Таму рашылі выступіць з п'есай „Было гэта ў 1941 годзе“ ў сваёй вёсцы. Пра гэта прасілі іх і аднавяскоўцы. Усе рэквізіты, патрэбныя для п'есы, падрыхтавалі яны самі: мундзіры, лекарскія інструменты, шавецкія прылады і іншае. На запусты выступілі ў вясковым клубе перад сваёй публікай, якая прыняла іх вельмі добра.

З гэтай п'есай і яшчэ з камедыяй Сакрата Яновіча „Сто хвароб на аднаго“ калектыў выступіць на аглядзе тэатральных калектываў у Беластоку.

— Чаму яшчэ і камедыя?

— Проста не хапіла ўсім ахвотным роляў, — адказвае Я. Мордань. — Асабліва жанчыны хацелі яшчэ нешта паказаць. У камедыі С. Яновіча якраз выступае 4 жанчыны. Хачу яшчэ дадаць, што з ахвотнымі ў Паўлах можна было б паставіць яшчэ адну п'есу.

У Паўлах назіраецца вялікае заангажаванне людзей у працу на беларускай сцэне. Найбольш сэрца ўклала Ніна Філіпюк, якая выступала і даўней. Яна найбольшы тут арганізатар. Выступаюць цэлыя сем'і, мужы з жонкамі: Лідзія і Васіль Андраюкі, Надзя і Аляксандр Раманюкі, Анна і Віктар Мартынюкі, Вера і Мікалай Харытанюкі. Новыя людзі ў паўлаўскім тэатры — гэта Аляксей Філіпюк, Яўгенія Раманюк, Ірына Мароз. Адчуваецца, што з маленства людзі ў Паўлах насябравалі з жывым беларускім літаратурным словам. Напрыклад, цікавы факт: калі ў клубе адбываліся рэпетыцыі, якраз у той час па тэлебачанню ішоў „Эдэн“. Але ніхто не заставаўся на фільм, усе самадзейнікі прыходзілі на рэпетыцыю. „Ат, — казалі пра фільм, — то казка“.

Вельмі добрае ў паўлаўцаў беларускае вымаўленне. Яны, зрэшты, лічаць гэтую мову сваёй натуральнай, толькі літаратурнай, мовай.

Члены калектыву — гэта лепшыя гаспадары ў вёсцы.

**Вера Валкавыцкая**

## З рэпарцёрскіх ЗАПІСАК

Канчаўся месяц сакавік. У краіне шумела ад чутак пра чарговае павышэнне цэнаў, таксама ўрадавых, гарантаваных высокім аўтарытэтам. Да вячэрніх паведамленняў у суботу яшчэ афіцыйна ніхто аб нічым, нібыта, не ведаў.

У гэтую пятніцу давялося мне пабываць у Бельску-Падляшскім. Рашыў я пагледзець, як людзі рэагуюць на чуткі пра павышэнне цэн. У першую чаргу цікавіў мяне сялянскі сектар. Накіраваўся я ў Цэнтралю насенную і на гээсаўскую базу. Абедзве гэтыя ўстановы абсталяваліся ў Бельску па-суседску.

На прасторным панадворку Цэнтралі насеннай вялікага руху не было відаць. Усяго некалькі трактараў з прычэпамі чакала на загрузку нейкіх тавараў. Ніхто нікога не падганяў, ніхто не спяшаўся.

— Практычна беручы, — паясніў мне дырэктар Ян Сельвясюк, — мы ўжо закончылі пастаўку яравога насення.

Ян Сельвясюк у бельскім аддзяленні Беластоцкай цэнтралі насеннай працуе ўжо амаль 20 гадоў, палова гэтага яго працоўнага стажу прыпадае яму на дырэктарскую пасаду.




— Ведаеце, што, — сцвярджае гэты сімпатычны і добразычлівы чалавек, — часта чуецца нараканне, што вёскі нашы пусцеюць, што людзі з іх уцякаюць. А я вось з аптымізмам гляджу на перспектывы нашага земляробства. Аснову для гэтага дае мне павышанае зацікаўленне адборным і даволі дарагім пасяўным матэрыялам. У гэтым годзе прадалі мы сялянам каля дзвюх тысяч тон кваліфікаванага насення. Адной толькі яравай пшаніцы пайшло да сялян аж 150 тон. Гэта ў 2-3 разы больш, чымсьці ў папярэднім годзе, не параўноўваючы, зразумела, з даўнейшым часам. І, што цікава, сяляне найчасцей просяць аб навейшы, найбольш вартасны гатунак пшаніцы, якая называецца „Кадэт“. Гарантуе яна плён на ўзроўні сарака цэнтнераў з кожнага гектара, вядома, пры дбайнай апрацоўцы зямлі і прымяненні адпаведнай агратэхнікі.

Гаварылі мы яшчэ і пра бульбу. Гэта ж, як не глядзець, — другі хлеб беларускага селяніна.

З мінулагодняга ўраджаю бельскае аддзяленне Беластоцкай цэнтралі насеннай скупіла ад сялян каля 11 тысяч тон высакаякаснай бульбы. У першую чаргу з раней закантрактаваных плантацый.

— Бульбай гандлявалі мы з многімі краінамі, — адзначае дырэктар. — Пастаўлялі яе ў Савецкі Саюз, Балгарыю, Румынію і Чэхаславакію.

Я пацікавіўся раннімі сартамі бульбы. Дырэктар Ян Сельвясюк прапанаваў звярнуць увагу на „Ірыс“, „Фрэзію“, „Далію“ і „Ясьмін“.

 

# ЖЫЦЦЁ ПРАЖЫЦЬ — НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ



1 Мая! Многа чырвані ўсюды. Гэтак цяпер. Але была і другая Польшча, калі за вывешванне чырвоных сцягоў моцна каралі.

— Аднак мы тады таксама святкавалі, рыхтаваліся да гэтага Свята, — сцвярджае былы член КПЗБ Аляксандр Лушчынскі. — У нас нелегальна адбываліся сходы і выступленні на іх мясцовых, часта і раённых ды акружных дзеячоў, якія натхнялі да дзеяння.

А. Лушчынскі ўступіў у рады КПЗБ у 1933 годзе. На працягу 4 год, гэта значыць, пакуль не былі распушчаны КПП і КПЗБ у 1937 годзе, яго праследвала паліцыя, клікала на допыты.

Пры Савецкай уладзе ў гадах 1939-41 А. Лушчынскі быў вядомым дзеячом у Дыдулях. У яго вёсцы ўсе былыя члены КПЗБ уступілі ў калгас. Неспадзявана навалілася нямецкая акупацыя, пачаліся расстрэлы мірнага насельніцтва, вываз моладзі ў Германію. Дыдуляне, у тым і А. Лушчынскі, спрыялі савецкім партызанам.

І, урэшце, дачакаліся вызвалення з-пад нямецкай акупацыі. З энтузіязмам прынялі дыдуляне, так як усе беларусы Беласточчыны, ідэі Ліпнёвага маніфесту ПКВН, якія сталіся палітычнай праграмай прыхільнікаў народнай улады. Адразу ў той час распачала сваю арганізатарскую дзейнасць і Польская рабочая партыя (ППР), якая знайшла падтрымку ў былых членаў КПЗБ. У 1945 годзе А. Лушчынскі ўступае ў яе рады, уступаюць і іншыя дыдуляне. Яго выбіраюць сакратаром пярвічнай арганізацыі.

Гэта быў 1945 год, і зноў з гэтага года пачалі свабодна і ўрачыста святкаваць 1-е Мая, а пасля праз тыдзень прыйшла вялікая радасць — капітуляцыя нямецкай арміі і заканчэнне вайны. Здавалася, што наступіў канец гаротным часам, што распачнецца мірнае, спакойнае залечванне ваенных ранаў. На жаль, так не сталася. Маладую народную ўладу і яе арганізатараў пачалі знішчаць банды рэакцыйнага падполля, сталі нападаць на вёскі і знішчаць прыхільнікаў народнай улады, членаў ППР, ЗВМ, актывістаў, міліцыянераў. На Беласточчыне банды, ведаючы пра падтрымку народнай улады беларусамі, сталі нападаць на вёскі з беларускім насельніцтвам, страляць людзей і паліць іх сялібы. Так было ў Вульцы Выганоўскай, Занях, Шпаках, Малешах, Канцавізне, Завыках, Залешанах і іншых.

Партыйная арганізацыя ў Дыдулях вырашыла тады арганізаваць самаабарону, атрымала зброю. Яна стала пагрозай для бандаў.

— Да 1950 года не было ў нас спакою — заўважае А. Лушчынскі. — Безупынна мы вымушаны былі быць напагатове да самаабароны і многія ночы не спалі, вартавалі. І нягледзячы на ўсе цяжкасці партыйная арганізацыя ў Дыдулях праяўляла актыўнасць у грамадскім жыцці.

У 1950 годзе А. Лушчынскага накіроўваюць у партыйную школу ў Дайлідах. Пасля яе ён стаў працаваць сакратаром гміннага камітэта ПАРП у Кляшчэлях. Надалей ад яго арганізатарскіх здольнасцей залежала ў многім актыўнасць партыйных арганізацый у гміне.

Здольныя партыйныя кадры былі вельмі патрэбны ў павятовым камітэце ПАРП. (Тады ў склад Бельскага павета ўваходзілі пазнейшыя паветы Сямяціцкі і Гайнаўскі). А. Лушчынскаму даручылі работу інструктара сельскагаспадарчага аддзела КП ПАРП. Быў гэта перыяд арганізавання сельскагаспадарчых кааператываў, якіх у былым Бельскім павеце было вельмі многа. А. Лушчынскі свята верыў у тое, што калектыўнае гаспадаранне — гэта будучыня нашай сельскай гаспадаркі, што аднаасобніцкая гаспадарка не мае перспектываў. І з цэлай адданасцю, згодна з тадышняй лініяй партыі, працаваў над ажыццяўленнем калектывізацыі. А калі ў 1956 годзе кааператывы сталі распадацца, цяжка перажыў ён тое.

Але ўжо ў 1956 годзе А. Лушчынскі на новай пасадзе, узначальвае Грамадскую раду нарадовую ў Маскаўцах, а пазней (з 1962 па 1966 год) у Грыгораўцах. Праца ў найніжэйшых адміністрацыйных звеннях — найцяжэйшая, бо звязаная непасрэдна з усімі праблемамі сялян. Вырашэнне розных спраў неаднойчы вельмі складанае і цяжкае. Аднак калі ў чалавеку многа чалавечнасці, калі людзі бачаць, што ў мясцовага начальніка ёсць жаданне дапамагчы ці ўладзіць нейкую справу, і калі гэта нават не ўдасца яму, не крыўдзяцца, адносяцца з пашанаю да яго.

А. Лушчынскі ў 60 гадоў жыцця вярнуўся зноў на сваю гаспадарку ў Дыдулях і на працягу яшчэ 6 гадоў абрабляў яе, сумленна выконваў ускладзеныя на сялян абавязкі. Дапамагала яму ў гэтым яго працавітая жонка Марыя, а таксама трое самастойных ужо і сямейных іхніх дзяцей.

Цяпер А. Лушчынскаму 81 год, яго жонцы 77. Яны яшчэ параўнальна да сваіх гадоў адчуваюць сябе нядрэнна. Дагляда-

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 3)

## БЕЛАРУСЬ — БОЛЬ І НАДЗЕЯ

стракаўся, што і дзе еў, як яму спалася і што ў снах явілася, змясціў болей канкрэтных і сціслых звестак пра асобы і падзеі з гісторыі польска-беларускіх суадносін. Таксама не надта прыемнае ўражанне робіць даволі няскромнае выпучванне аўтарам свае асобы ды натужлівае ўцягванне яе на высокі педэстал. Але хто з нас не грэшны?..

•

Гэтую невялічкую (190 старонак), танную (усяго 90 злотых) і сціплую (на жалобнай чорнай вокладцы яснее цнатлівай беллю падвойнае „Беларусь") не толькі варта, але і неабходна мець пры сабе заўсёды. Перш за ўсё, каб лепш спазнаць мінулае свайго, беларускага, і суседняга, польскага народаў і каб разам з аўтарам наракаць на свой лёс, што пусціў нас у свет беларусамі, і адначасова дзякаваць таму ж лёсу і ганарыцца тым, што мы — беларусы. Бо цяжка не згадзіцца са спасцярогамі С. Яновіча, што „беларускае нацыянальнае жыццё па сённяшні дзень імкнецца да поўнага здзяйснення, і хто ведае, ці ў гэтай нястачы не крыюцца яго непрыкметныя шанцы на выдатнае, зацятае трыванне, патаемны зарад моцы".

**Мікола Гайдук**

*) Janowicz Sokrat, Białoruś, Białorus, Iskry, W-wa, 1987, c. 90 zł.

### ПАПРАЎКА

У артыкул В. Валкавыцкай „Школьны беларускі тэатр" („Ніва" № 17 (1615) ад 26 красавіка г.г.) закралася тэхнічная памылка. Павінна быць:

„Райск, гм. Бельск, драматызаваны тэатр, выступіў з п'есай „Першыя крокі самастойнасці", мастацкі кіраўнік — **Людміла Паўлік.**

Пашкоўшчына, гм. Орля, драматычны тэатр, выступіў з пастаноўкай п'есы „Старыя", мастацкі кіраўнік — **Ян Добаш".**

Апрача гэтага ўдакладняем, што Чыжы выступілі з п'есай „Праведалі", мастацкі кіраўнік — **Зінаіда Хмель.**

Перапрашаем

— З усіх гэтых сартоў я асабіста, — адзначыў дырэктар, — найбольш паважаю „Ірыс". Сорт ужо выпрабаваны, вельмі ранні і дае вельмі смачныя, беленькія бульбіны, якія лёгка разварваюцца.

За адзін цэнтнер „Ірыса" Цэнтраля насенная патрабавала ад сялян каля дзвюх тысяч злотых. Такім чынам мы зноў дакрануліся да цэнаў. Аказваецца, што цэны на пасяўныя матэрыялы былі б на многа вышэйшыя, калі б не ахоўная палітыка ўрада. Да кожнага цэнтнера, напрыклад, той-жа пшаніцы „Кадэт" дзяржава дакладае па 500 злотых. Можна спрачацца: добра гэта ці дрэнна?

— Вось збіраюся я на дзесяцідзённую экскурсію ў Федэратыўную Рэспубліку Германіі, — нібы жартам, нівы ўсур'ёз сказаў дырэктар. — Дык там пацікаўлюся, як капіталісты вырашаюць у сябе праблемы цэнаў на адборачны пасяўны матэрыял.

— Дык дамаўляймася на паўторную сустрэчу з вамі пасля вяртання з гэтай замежнай паездкі.

Я. Сельвясюк ахвотна згадзіўся на маю прапанову, а я пажадаў яму прыемных уражанняў ды накіраваўся да яго суседзяў, у бельскую базу Саюза гмінных спулдзельняў „Сялянскай самапомачы". З галавы, аднак, не паспела яшчэ выветрыцца „бульбяная праблема", і тут упершыню звярнуў я ўвагу на бульбяны цэннік. ГС аб'яўляў сялянам, што прымае кожную колькасць бульбы, але толькі раней кантрактаваную і толькі па 800 зл. за цэнтнер. Праўда, да асноўнай цаны ГС абяцаў даплаціць яшчэ па 100 зл. да кожнага цэнтнера за бульбу „прафераваную" і яшчэ па 60 зл. за падвоз і разгрузку. Разам выходзіць няпоўныя 1000 зл. Памятаю, што падобная цана трымалася на бульбу больш-менш пяць гадоў таму назад.

Крыху далей знаходзіўся склад будаўнічых матэрыялаў, загружаны рознай сталяркай, паркетам і кафлямі. Пакупнікоў зусім мала. Цэны дагаворачныя. За ашклёнае акно патрабуюць амаль 20 тысяч злотых! Прынамсі 2 тоны бульбы. Дзверы — два кавалкі цвёрдай тонкай пільсні прыбітай да драўлянай рамы і памаляванай белай фарбай — 6.200 злотых! Памятаю, што такія ж дзверы ў 1979 годзе купляў я па 800 зл.

Найбольшы, аднак, рух наглядаўся на вугальным складзе. Вугалю было многа, удосталь, а людзей — яшчэ болей. Трактары і фурманкі збіліся ў адзін шчыльны натоўп. Нейкім патаемным шляхам людзі пранюхалі, што цана на вугаль крута пойдзе ўверх. Кожны селянін стараўся рэалізаваць сваю долю. Толькі ўжо шмат пазней было аб'яўлена, што тэрмін гэтага продажу працягваецца да 10 красавіка.

Заглянуў я яшчэ ў склад з мінеральнымі ўгнаеннямі. Людзей там застаў малавата і ўгнаенняў таксама не замнога. Азотных дык і зусім не было ў продажы. З чым тады ў поле пасля такой доўгай і ліхой зімы?

З гэтым пытаннем я і пакінуў бельскую гэесаўскую базу. Па дарозе ў Беласток заехаў яшчэ ў павільён бельскага аддзялення „Польмазбыт" з запаснымі часткамі да аўтамабіляў і матацыклаў. Ужо больш за паўгода шукаю электрычнага рухавічка да помпы для апырсквання пярэдняй шыбы аўтамабіля. Пад магазінам тоўпіліся людзі. На дзвярах было напісана, што адкрыты ён з 9 гадзіны раніцы. Глянуў я на гадзіннік. Яго стрэлкі паказвалі на абед, а ў гэтым магазіне не відаць было ні жывой душы і нідзе ніякага паведамлення, чаму ён закрыты. Нейкі болей асвядомлены чалавек сказаў мне, што адчыняць яго цераз гадзіну часу. Я, аднак, не чакаў. І без свайго электрарухавічка рашыў неяк дабрацца дамоў. А дома жонка на мяне:

— Дзе ж ты швэндаешся па вёсках? Не бачыш, што людзі валакуць муку, цукар, кашу, макарону, гарэлку... Пайшоў бы і ты пастаяць у чаргу! Я ўжо рук і ног не чую!

На жаль, не, паспеў я выручыць сваю жонку ў яе намаганнях, каб назапасіцца прадуктамі па „старой" цане. Прыйдзецца купляць па „новай". Маю надзею, што неяк прывыкнем да яе і незадоўга яна ў нашых вачах таксама „пастарэе".

**Віктар Рудчык**



 

# Аглая Артысевіч — наш гонар!

Я даведаўся, што ў Бельску жыве Аглая Артысевіч, таленавітая мастачка, якая калісьці закончыла Варшаўскую акадэмію мастацтваў. Я рашыў наведаць яе (жыве яна па вул. Навоткі).

Нарадзілася яна ў Варшаве, дзе жылі тады яе бацькі. Калі пачалася вайна, — вярнуліся ў родны кут, у Бельск. Варочаліся пешкі, два тыдні ішлі, пазбягаючы вялікіх дарог, якія бамбілі нямецкія самалёты і біла артылерыя. Пасля вайны Аглая пайшла ў беларускую школу, якой дырэктарам быў незабыўны Яраслаў Кастыцэвіч. У варшаўскую акадэмію паступіла Аглая Артысевіч у 1951 годзе і закончыла яе вельмі добра ў 1957 г. Талент маладой мастачкі выяўляўся ў маляванні пейзажаў яшчэ ў ліцэйскія гады, чым звярнула яна на сябе ўвагу сваіх бельскіх настаўнікаў. А пасля заканчэння акадэміі зацікавілася маляваннем партрэтаў. З Варшавы вярнулася ў свой Бельск, на бацькаўшчыну. Трохі пабыла ў Беластоку, працавала ілюстратарам у рэдакцыі „Нівы", потым у Беластоцкім доме культуры, у якім супрацоўнічала з вядомым тады мастаком Аляксандрам Вэльсам.

Жыццё так пакіравала Аглаяй Артысевіч, што цяпер яна займаецца таксама і кантрактацыяй буракоў, і шпарагавай фасолі, якую збывае ў „Вітаміне". Толькі ў свабодныя хвіліны свайго жыцця надалей стварае свае карціны. Сабралася іх за гэтыя гады ўжо нямала, пейзажаў і нацюрмортаў. У мастачкі ёсць вялікая бібліятэка, каля двух тысяч кніжак, дбайна падабраных яшчэ бацькам яе. Бацька, куды б не паехаў, ніколі не вяртаўся дамоў без кніжкі, новай, купленай у блізкай ці ў далёкай дарозе. Гэта было ўжо традыцыяй дома. Ёсць у гэтай хатняй бібліятэцы так рэдкія выданні, як трыццацітомная расійская энцыклапедыя з васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя.

Я шмат цікавага і займальнага даведаўся ў шчырай і сяброўскай гутарцы з нашай мастачкай Аглаяй Артысевіч. Мне думалася, чаму нашы беларускія дзеячы так мала цікавяцца гэтай выдатнай мастачкай? Можна ж зрабіць арыгінальную выстаўку яе карцін. Яны — каштоўны здабытак нашай тут беларускай культуры. Гэта ж наш гонар!

**Андрэй Гаўрылюк**

## З РАЁННАГА АГЛЯДУ ШКОЛЬНЫХ ТЭАТРАЎ У ГАЙНАЎЦЫ

У гайнаўскім раённым аглядзе школьных беларускіх тэатраў прыняло ўдзел пяць тэатраў: з Барысаўкі, Гайнаўскай школы № 2, Ласінкі, Махнатага і Чыжоў.

Конкурсную камісію складаў адзін толькі Янка Мордань. На шчасце, з дапамогай яму прыйшлі самі кіраўнікі тэатраў. А выбраць найлепшыя тэатры на цэнтральны агляд было нялёгка.

У Гайнаўцы два тэатры занялі раўназначныя першыя месцы: лялечны тэатр са школы № 2 у Гайнаўцы і тэатр жывога плана з Барысаўкі.

Увесь агляд праходзіў ва ўзнёслым настроі і на высокім узроўні. Удзячнасць і прызнанне за гэта належыцца і настаўнікам і дзецям. Настаўнікі вельмі многа працавалі з вучнямі, каб была адпаведная сцэнічная дыкцыя і беларускае вымаўленне, якое ў сёлетнім конкурсе сапраўды было добрае.

На падставе раённага агляду школьных беларускіх тэатраў у Гайнаўцы, хачу паставіць некалькі спраў для прадумання. Трэба раздзяліць тэатры на дзве катэгорыі: лялечны тэатр і тэатр жывога плана, спраўней арганізаваць агляды, павялічыць камісію журы да трох асоб. Неабходна таксама прадумаць падзел на раёны, напрыклад, Нарве і Нараўцы бліжэй і выгадней прыязджаць у Гайнаўку. За ўдзел у конкурсе трэба даваць хоць дробныя, але падарункі, а не толькі дыпломы.

**Андрэй Ялоза**

(Працяг са стар. 5)

## ЖЫЦЦЁ ПРАЖЫЦЬ — НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ

юць свой невялікі дабытак, а жонка нават прадзе лён — па некалькі разоў у дзень сядае за калаўротак.

— Льняное палаценца патрэбна і дочкам і нявестцы, — гаворыць яна.

Яны спрыяюць сабе ўзаемна. Адна дачка Лушчынскіх жыве ў сваёй вёсцы, другая — у Кляшчэлях, а сын — у Бельску. Усе яны часта наведваюць сваіх бацькоў. Унукі таксама часта забягаюць да дзядулі і бабулі. Адзін унук ужо жанаты. Ганарыцца ён сваім дзядулем. Жонка ўнука з асаблівай цікавасцю распытвае старога Лушчынскага пра яго мінулае жыццё, любіць паглядзець яго шматлікія дзяржаўныя ўзнагароды і адзначэнні, сярод якіх ёсць і „Ордэн сцяга працы II ступені", які быў дзядулю прызнаны Радай Дзяржавы 20 жніўня 1973 года. Медаль „За доўгагадовае супружаскае сужыццё" Лушчынскія атрымалі ў 1977 годзе, у 50 гадавіну шлюбу. А ў бягучым годзе яны могуць ужо адзначаць 60 гадавіну супольна пройдзенага жыццёвага шляху.

Цікава пагаварыць з Аляксандрам Лушчынскім. Мае што ён расказаць, мае што ўспомніць. Ён многа і аддана служыў партыі і народу і сёння застаўся сапраўдным камуністам.

**Міхась Хмялеўскі**

Фота аўтара

(Працяг са стар. 2)

## АБ СТАРШЫНЯХ (1)

штатных супрацоўнікаў Галоўнага праўлення, — праўда не старшыняў, але сакратароў, — маем сёння аж трох, якія, адыйшоўшы з высокіх функцый, не абразіліся на Таварыства і далей у ім адыгрываюць важную актыўную ролю. Гэтымі асобамі з'яўляюцца Ул. Юзвюк, В. Швед і Я. Зенюк.

А старшыні? Няма ніводнага актыўнага? Ёсць! Гэтымі выключэннямі з'яўляюцца Хмялеўскі і Склубоўскі, якія сёння адыгрываюць у Таварыстве вялікую ролю.

**А. Барскі**

# КРАЯВІД ПЕРАД ПАТОПАМ



На дне будучага Семяноўскага заліва. Фота Юркі Баброўскага.

ва жыла поўняй жыцця: ва ўсіх больш значных асяродках красаваліся храмы. Было шмат манастыроў, якія займаліся навучаннем грамаце не толькі княжацкіх дзяцей, але таксама рыцарства, гараджан, заможных кмецяў. У зацішку манастырскіх келляў перапісваліся кнігі, ствараліся іконы. Пра высокі ўзровень рэлігійнага жыцця на пераломе XIII-XIV ст.ст. у Полацку найлепш сведчыць тое, што з гэтага цэнтра былі ўзяты ў епіскапы ў суседняе Цвярское княства выдатныя багасловы Сімяон (паміж 1274-1285 г.г.) і Андрэй (пастаўлены ў епіскапа цвярскога ў 1290 г.). Наваградская мітраполія складалася, мабыць, з Полацкай і Тураўскай епіскопій. На тэрыторыі цяперашняй Беласточчыны тады межавалі абедзве гэтыя епіскопіі, а граніцай была рака Нарва.

Мітрапаліт Феафіл памёр каля 1330 г. Пасля яго смерці маскоўскі мітрапаліт Феагност дабіўся ў Канстанцінопалі далучэння ўсіх епіскопій, якія былі ў Вялікім княстве і Галіцка-Валынскай Русі да Маскоўскай мітраполіі. Гэта не магло падабацца Гедыміну і яго зяцю Баляславу-Юрыю і яны пачалі захады ў патрыярха пра назначэнне для іхніх княстваў аднаго супольнага мітрапаліта. Іхнія намаганні закончыліся паспяхова — захаваўся дакумент з красавіка 1331 г. з подпісам галіцкага мітрапаліта.

Важнае месца ў „збіранні" ўсходнеславянскіх зямель адыгрываў Кіеў — колішняя сталіца Старарускай дзяржавы і старадаўняя сядзіба Кіеўскай мітраполіі (з 988 г. і да нашэсця хана Батыя ў 1240 г.). Пакуль ён знаходзіўся ў татарскім уладанні, цяжка было явіць сябе паўнамоцным „збіральнікам" усходнеславянскіх зямель. Гэта добра ўсведаміў сабе Гедымін, і з зімовых лежняў у Бярэсці на пераломе 1331/32 гадоў „як толькі мінуў Вялікдзень... сабраў усе свае сілы літоўскія, жамойцкія і рускія і на другой нядзелі пасля Вялікадня пайшоў на князя... кіеўскага", — паведамляе „Хроніка Быхаўца".

На рацэ Ірпені аб'яднаныя сілы паўднёварускіх князёў і татараў спрабавалі паўстрымаць наступ Гедыміна, але ён разграміў іх „наголаў, і войска іх усё пабітае на месцы засталося", — чытаем у той жа „Хроніцы". Пасля месячнай аблогі здаўся Кіеў і кіеўляне „выйшлі з горада з крыжамі, ігуменамі, папамі і дыяканамі і гарадскія вароты адчынілі і сустрэлі вялікага князя Гедыміна чэсна і ўпалі перад ім у паклоне і паддаліся служыць яму і прысягу сваю... на тое далі... і князь Гедымін... у горад Кіеў уехаў", — расказваецца ў той жа „Хроніцы". За прыкладам Кіева пайшлі неўзабаве і іншыя паўднёварускія гарады — Вышгарад, Чаркасы, Канеў, Пуціўль, Слепаўрод, Пераяслаўль.

І хоць не без уздзеяння маскоўскага князя Івана Каліты і падлеглага яму мітрапаліта Феагноста Залатая арда спрабавала адбіць у Вялікага княства дасюль ёй падпарадкаваны „рускі ўлус", гэта значыць — рускую правінцыю, але безвынікова. Недзе перад 1336 годам хан Узбек накіраваў полчышчы татараў і падначаленых ім рускіх князёў маскоўскага, разанскага, суздальскага, растоўскага і іншых на Вялікае княства Літоўскае. Зборная татара-руская армія аблажыла Смаленск, але не здолела яго здабыць і, абрабаваўшы датла Смаленскую зямлю, адступіла, прачуўшы, мабыць, пра зборы Гедыміна ісці з адбоем.

І так, Наваградак у сваім імкненні стаць пераемцам традыцый старажытнага Кіева наткнуўся на рашучае супраціўленне Масквы. На ролю „збіральніка" ўсходнеславянскіх зямель аказалася двох прэтэндэнтаў і змаганне паміж імі зацягнулася на доўгія стагоддзі.

**Мікола Гайдук**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Станіслаў Шушкевіч

## ВЯЛІКІ СВЕТЛЫ МАЙ

Цяпло і ласку не хавай,

Будзь шчодраю вясна на свеце!

Пабач, як крочыць мужны Май

І яркім сонцам дружбы свеціць.

У братняй еднасці народ

Усіх краін зямнога шара

Пачаў крышыць прыгнёту лёд

На заняволеных абшарах.

Чырвоны сцяг ярчэй палай,

Сцяг братняй еднасці і дружбы!

Ідзі, вялікі светлы Май,

Ступай адважна, смела, мужна.



Сардэчнае дзякуй Валянціну Кандрацюку, настаўніку фізікі ў школе ў Барысаўцы, які фатаграфаваў увесь цэнтральны агляд школьных беларускіх тэатраў у Бельску і прыслаў „Зорцы“ здымкі. Будзем паказваць усе калектывы. Сёння фота: Ліса (Дарота Франкоўская) і Заяц (Анна Яканюк) з пастаноўкі барысаўскай казкі „У Ліхадзеевым палацы“, пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніка польскай мовы Валянціны Дзмітрук.

## БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

Сяргей Новік-Пяюн

### ЗАКІГІКАЛІ ЧАЙКІ

Закігікалі чайкі за вёскай,  
Хоць мяцеліца снегам мяце.  
Над радзімаю нашай палоскай  
Усё ж вясна-прыгажуня ідзе.

Прыбярэ ў зелень нашыя дрэвы,  
Дыванамі пакрые лугі,  
Пад вясняная ветру напевы  
Закрасуе наш край дарагі.

Глянь! З-за хмарачкаў бліснула сонца  
І — мяцеліцы, як не было!  
Усё змянілася ў нашай старонцы,  
Зварухнулася ўміг, ажыло.

Жаўрук дробна званочкамі звоніць.  
У дуброве зязюля куе.  
Шпак у садзе аб нечым гамоніць.  
Белы бусел на небе плыве.

Роўным строем сялянскія хаты  
Паабапал дарогі ляглі.  
З сваім трактарам-другам араты  
Кроіць плугам барозны раллі.

Закалышуцца родныя нівы,  
Краскаў прыгаршчы кіне вясна.  
Ураджайны год будзе, шчаслівы,  
Так цяпер ужо суліць яна.

А за вёскай кігікаюць чайкі,  
Абуджаюць зямельку ад сну.  
Кучаравяцца хмарачкаў стайкі.  
Усё жывое вітае вясну.



### САД МІРУ

Ад сонца белы,  
Ад травы зялёны —  
Планетай пройдзе  
гаманлівы дзень,  
І дзетвары  
вясёлыя калоны  
Ён за сяло,  
За горад павядзе.  
І кожны прынясе  
з сабой галінку,  
Пасадзіць дрэўца  
Ці пасадзіць куст:  
Каб лесам пах,  
Каб маладзеў няспынна  
Планеты нашай  
Кожны край і кут;  
Каб восенню,  
Калі ад ураджаю  
Яшчэ павольней  
круціцца зямля, —  
Губляла лісце звонка  
Маладая  
Таполяў стройных  
Дружная сям'я;  
Каб на зямлі  
Чароўнаю вясёлкай  
Свяціўся воблік  
Сёл і гарадоў,  
Каб нам прыносілі  
Вятры на золку  
Вясёлы шэпт  
Бярозак і кляноў.

Аурэл Чакану  
(Малдавія)  
Пераклаў на бел мову  
М. Чарняўскі

Алесь Якімовіч

### БАБКА І РЫТОРКА

Бабка мая ходзіць зусім босая. Мяне гэта здзівіла, бо я ніколі не бачыў, каб мая мама хадзіла па двары босая, хоць яна і маладзейшая. Няўжо ў бабкі няма ў што абуцца? Каб я ведаў, дык прывёз бы маміны туфлі, а то ў нас дома, дзе ні ступіш, — усё за маміны туфлі зачэпішся. Я нават не ўтрымаўся і запытаўся ў бабкі, чаму яна босая.

— А навошта той абутак улетку? Босай здаравей, — адказала яна.

Дзіўна! Мама зусім не так разважае, калі я часам у хаце бегаю босы. Яна нават не разважае, а проста крычыць: „Віця, абуйся зараз жа, а то кашляць будзеш!“

— А ты, бабуля, хіба не кашляеш? — пацікавіўся я.

— Навошта мне, унучак, той кашаль? Няхай ён лепш на цёмны лес ідзе, — пагладзіла яна мяне па галаве.

— А ты ж босая ходзіш...

— Таму босая і хаджу, каб не кашляць.

Зноў загадка! Дзіўная нейкая бабка ў мяне. Я і не ведаў гэтага. Я толькі ведаў, што бабка не любіць горада. Неяк яна прыязджала да нас у госці. Пабыла дні два ды ўцякла. „Не магу, — кажа, — жыць у горадзе: тут шум і рабіць няма чаго. А ў мяне там і свінні, і парасяты, і авечкі...“

Ды мяне цяпер не гэта цікавіць, а бабчына загадка наконт кашлю.

— Як жа гэта, бабуля, так выходзіць, каб босы ды не кашляў? — настойліва дапытваюся я. (За такія допыты мяне мама часта выганяе вон. „Не лезь, — кажа, — у вочы. Ідзі вон. Вельмі цікаўны!“)

Бабка, мусіць вельмі добрая, бо яна не выгнала мяне, а расказала цэлы ўрок. Я даведаўся ад яе, што той, хто ходзіць улетку босы, здаравейшы за абутага, што зямля выцягвае з чалавека ўсялякія хваробы, ка-

(Працяг на стар. 10)

### СВЯТА БЕЛЬСКАГА ГУФЦА ЗГП

9-10 мая гарцэры Бельска і ваколіц будуць перажываць вялікую і багатую ўрачыстасць у сувязі з прысваеннем Бельскаму гуфцу ЗГП імя капітана Ул. Высоцкага, героя І дывізіі Войска Польскага імя Т. Касцюшкі, якая сфарміравалася над Окай у СССР і пераможна закончыла свой баявы шлях у Берліне.

Кап. Ул. Высоцкі нарадзіўся і рос у Бельску, загінуў смерцю героя, да канца адстойваючы пазіцыі, над Леніна на Беларусі, дзе касцюшкоўцы прынялі на сябе бой за вызваленне гэтай беларускай зямлі.

У праграме свята — канцэрты гарцэрскіх і піянерскіх калектываў з Бельска і Гродна, выстаўкі, каміны, спартыўныя спаборніцтвы, турніры ведаў аб гарцэрстве і піянерскай арганізацыі, якая ў 1939-41 г. масава дзейнічала на Бельшчыне.

Ад імя Камэнды харугвы і гуфца ЗГП у Бельску запрашаем. (вв)

